ЗІНАІДА ДУДЗЮК
НАРАДЗІЛАСЯ
У 1950 ГОДЗЕ
У ВЁСЦЫ СЛАБОДКА,
ШТО НА БРАСЛАУШЧЫНЕ.
СКОНЧЫЛА
БРЭСЦКІ ІНЖЫНЕРНА-БУДАУНІЧЫ
ІНСТЫТУТ.
ПРАЦАВАЛА НА БЯРОЗАУСКАЙ ДРЭС.
ЦЯПЕР ЖЫВЕ І ПРАЦУЕ У БРЭСЦЕ.
ВЕРШЫ ДРУКАВАЛІСЯ
У ЧАСОПІСАХ «МАЛАДОСЦЬ»,
«РАБОТНІЦА І СЯЛЯНКА»,
А ТАКСАМА
У РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГАЗЕТАХ.

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Зінаіда
Дудзюк

# ПРАВОДЗІНЫ ПТУШАК

Вершы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1983

## ПРАЛОГ
## ДА НАСТУПНАГА ДНЯ

Нам далеч засцяць вокны,
Балконы і дамы,
А болей нашы болькі,
А болей самі мы.
Надарыцца часіна —
Суровы самасуд.
Нахлынуць успаміны —
Жыццё ператрасуць.
Замучыла бяссонне,
Вісіць нібы праклён,
Ды звыкла і спакойна
Заснуў мікрараён.
Тыпова аднастайны,
Мой безнадзейна шэры.
Нас падганялі планы —
І гналі мы кватэры.
Была сапраўднай радасць
У нас і навасёлаў.
У чым жа крыўда-праўда
Дум гэтых невясёлых?
Майстэрства не прапала,
Стварыць і мы не зломкі.
Фантазіі хапала,
Ды не хапала сродкаў.
Сядзь, размяркуй як трэба
Народнае багацце,
Каб хлеб быў і да хлеба,
І хата і у хаце.
І гарантуй бяспеку

І непрыступнасць межаў
Таго, што нам спрадвеку
Належала й належыць —
Мы родам з чалавецтва.
На боль чужы й нягоды
Заўсёды адгукнецца
Душа майго народа.
Душа! Яна, як талент.
Любая справа — прахам,
Калі ў яе не ўклалі
Душу, як песню птаха.
...Як феніксы, паўсталі
З руінаў гарады
Праспектамі, мастамі
У кароткія гады.
Але раслі патрэбы:
Разлік на мілёны,
У неба ўсходзіў горад,
Шырэў мікраараённа.
Мы дасягалі мэты,
Ды нажывалі верад.
І ў масавасці гэткай
Недаравальна шэрасць.

Спраў столькі яшчэ будзе!
І нашай працы вартасць
Ацэньваць нам і людзям,
Якія прыйдуць заўтра.
Няменшая адказнасць
За ўсё і на усіх:
Нашчадкам вельмі важна,
Якім расце мой сын,
Што я нашу употай,
За што сябе віню,
Стамляюся ў турботах
І страшна сню вайну...

Адкрыты небакрай —
Дня будучага віза.
Акрэсліўся квартал,
Які яшчэ ў эскізах.
І дрэвы прараслі,
Якія шчэ ў насенні.
Бязмежныя палі
Работы і натхнення.
На досвітку святло
Спяшае ў горад сонны.
А ўчора, як пралог
Таму, што здзейснім сёння.

## БАЛАДА ДАБРЫНІ

Расла нічыя
сярод поля шырокага
дзічка старая
ўдавой адзінокаю.
Вятры яе рукі
круцілі, ламалі.
У слоту дажджы,
нібы пугі, хвасталі.
Ні стогну. Ні скаргі.
Цярпліва маўчала.
І кожнай вясною
яна расцвітала!
Не, так не цвітуць
за высокім парканам,
дзе, можа, утульней,
ды сонца замала.
Ад дзіўнае белі
поле святлела...

А ўвосень страсала,
страсала з прыполу
дзічкі даспелыя
шчодра да долу,
ў іржэўнік калючы,
на вузкія ўзмежкі...

Тады да яе
прабіваліся сцежкі.

## ЛЁС

Дарога выдалася рознай,
Не абышлося без памылак.
Плыла ракой золатаноснай,
Ды срэбра ў валасы намыла.

А час мяняўся ці праходзіў?
Хавае фарба сівізну.
Унук пытае, як пра подзвіг:
«Бабуля, ты жыла ў вайну?..»

* * *

Тры возеры на нітачках каналаў —
Тры пацеркі блакітныя мае,
З маленства я здзіўлёна адкрывала,
Як урачыста бор для вас пяе,
Як лозы нешта шэпчуць патаемна,
Пяшчотна чайка хвалю прыхіне.

Яе пяшчота гэтак пераемна
Заўжды ахоплівае і мяне.
...Сачу, сачу за зменліваю хваляй,
І на паперу — колераў акорд.
Няўмелы мой малюнак і няўдалы
Перад жывою прыгажосцю вод.
Узрушана яшчэ не толькі мне
Вас спасцігаць і адкрываць нанова,
Тры возеры — тры пацеркі мае,
На палатне, у музыцы, у слове...

## МАЛЕНСТВА

Адмысловаю цацкай
Улагодзіў нас цесля.
Вечар поўніцца казкай,
Вечар доўжыцца песняй.

Мы, малеча,— на печы
Кольцам сцішана цесным
Заварожаны казкай,
Зачараваны песняй.

То надзея ці мара
Круг над намі пракрэсліць.
Засынаем пад казку,
Засынаем пад песню...

## РУЖЫ СОФ'І ПЯРОЎСКАЙ

Па ружах шлях на эшафот...
О, як яны ўпіваліся ў калёсы,
У капыты, каменні, вочы катаў
Маленькімі калючкамі сваімі;
Як іх пялёсткі
Водбліскамі полымя
На твары маладыя падалі
І клятву выкрасалі:
«Здабудзем волю!»

## ДЗЕДАВА ЧЫСЦІНА

Магіла дзеда пад таполяй
На стромым беразе Дняпра.
Пражыў ён столькі, колькі здолеў,
Вялікіх скарбаў не сабраў.
Стаяць у вёсцы яго хаты,
Яго калёсамі рыпяць
Вазы,
зімою зухавата
Праз вёску сані праляцяць.
Ды у зарослай азярыне,
Дзе бераг дзед расцерабіў,
Ёсць чысціна з ягоным імем,
Якую кожны ўнук любіў.
Дзятвой сюды цягнулі човен
З вады вялікае Дняпра,
І быў той човен часта повен
Неверагоднага дабра:
Блішчала маціца ракушак,

Мяшкамі шчаўе з-за ракі,
З лускою срэбнай валакуша,
А зрэдку нават шчупакі...

Дзяцінства! Столькі ў табе сонца,
Што і не ўспомніцца бяда,
І шчодра свеціцца да донца
У нашай чысціне вада.

## УРАЖАННІ

### І

Мы ж ўсе —
у пыле дарожным, упартыя,—
хочам падкову знайсці цудадзейную.
Вацыс Рэймерыс

А свет не адкрываецца адразу,
Хаця й наросхрыст велічны абсяг.
Ды гарызонт заўсёды невыразны,
Нібы блакітны і прызыўны сцяг.
За вуліцамі, сценамі, платамі
Губляем адчуванне шырыні.
Абкладваемся тоўстымі тамамі,
Чужую мудрасць спасцігаем мы.
І я жыла ў яе святым палоне,
Ў сабе паліла дробязнасць датла.
І раставаў мой час, як на далоні —
Сняжынка ад нясцерпнага цяпла.
І гэтага было мне дастаткова.
Ды адарваўшы позірк ад старонкі,
Я адкрывала для сябе нанова
Рубінавасць калінавае гронкі.

Сінела неба ў фарбаванай раме,
Пакорнае святлу і цішыні.
За вуліцамі, сценамі, платамі
Губляем адчуванне шырыні.
А свет не адкрываецца адразу,
Хаця й наросхрыст велічны абсяг.
Ды гарызонт заўсёды невыразны,
Нібы блакітны і прызыўны сцяг.

## II

Дні! Узыходзьце свабодна і проста,
Непадуладныя ночы заклятай.
Самая добрая краска сяброўства
Перадаецца ад брата да брата.

Валерыя Вальсюнене

Вітае нас літоўская зямля,
Узгоркамі ўздымаецца да сонца.
І адкрывае шчодра спакваля
Імклівую дарог сваіх бясконцасць,
Арганны грай наднёманскіх бароў,
І салаўіны спеў у майскі вечар...
Зноў шчасціць нам на шчырыя сустрэчы,
І добрае знаёмства, і сяброў.

## III

У адным са старых фортаў г. Каўнаса гітлераўцы абсталявалі прадпрыемства № 1005-Б. Тут, як у Бухенвальдзе, Асвенціме, Майданаку і іншых, знішчалі людзей.

Прайду па гулкай лесвіцы стальной
(Адстану ад турысцкіх груп цікаўных)
Сам-насам з чорнай крапаснай сцяной,
З яе крывавай і балючай тайнай.

Смяротны холад выдыхне сцяна,
Як пранікаючыя ў душу промні.
На ўсе вякі забылася яна.
Вайну стамлёна неадступна помніць,
Хварэе той апошняю вайной,
Аглухла, анямела, звар'яцела.
Стаю прад чорнай крапаснай сцяной
І адчуваю холад яе цела.
І чую стогны, лаянку і плач,
Праклёны, роспач, кволую надзею...
Вазьмі, сцяна, вазьмі майго цяпла,
Жывога, чалавечага, надзейнага.
Суцешыць я магу цябе адным,
Што за калючай агароджай форта
Зацвіў каштан, не помнячы вайны,
Ні зажыва закопаных, ні мёртвых.
Зноў крокі, крокі... Лесвіца гудзе.
Набатам жудасным зыходзяць сцены.
І вочы устрывожаных людзей,
І ком у горле даўкі і нясцерпны...

IV

Ля карціны М. К. Чурлёніса «Цішыня».

Час цішыні, напяты і жывы.
Крані травы паслабленыя струны,
Ад патаемных гукаў ажыві,
Зрабіся ўражлівым, відушчым,
чуйным.
Адкрыецца нябачнай гранню свет
І асяніць даверлівасці дзіва,
Пракрэсліць хваля невыразны след
І ападзе успененаю грывай.
Час цішыні прад подыхам сляпым.
Узніме вецер лёгкае насенне,
Каб апусціць у прыдарожны пыл

І даць працяг у новым нараджэнні.
Час цішыні сплывае ў небыццё.
Якія краскі кожным летам вянуць!
Ды з імі не канчаецца жыццё,
Азоранасць, нявыказанасць, памяць...

## V

> У калекцыі чарцей, сабранай А. Жмуйдзінавічусам, ёсць чорт з крыламі анёла.

Круціліся, міргалі, рагаталі,
Крывілі морды, хто і як хацеў,
Рагатыя, бясхвостыя, з хвастамі
Чэрці ўсіх гатункаў і масцей.
Мяне ж адзін уразіў — задуменны.
Глядзелі вочы ў сэнс душы сваёй,
І падалі нябачныя імгненні,
І млелі крылы за яго спіной.
І гэткі боль сяліўся у вачах
І сум, якіх, крый божа, каму зведаць,
Нібы трымаў ён на сваіх плячах
Усе, якія ёсць на свеце беды.
Як рэдка гэтак мы ў сябе глядзім,
Нічога не шукаем, не пытаем,
Як нам ягоным крылаў не хапае,
І адкрыцця, і роздумных гадзін.

## VI

*Гарадам Літвы*

У старажытны горад — нібы ў царства
Неверагодных чараў і дзівос.
Разбудзіць рэха звонкі стук калёс.

На брук ступіць, чакаць і дачакацца,
Калі харчэўні прыцемны скляпок
Раскрые першаму наведвальніку дзверы,
І прыме росказні мае на веру,
І здыме стому ста маіх дарог...
Як кацянё ля ног пусты мой клунак.
(Каго часова ўтульнасць не прывабіць?)
З якіх вякоў уяўлены малюнак
Нясла ў сабе, як родавую памяць.
Апусташу пасмяглымі губамі
Гліняную з жывой вадою чашу.
Дам шпаркі ход затрыманаму часу
З няўрымслівымі днямі і гадамі.
...І вось ужо сучаснасць.
Узлятаюць гмахі лёгка і высока,
Глядзяць у свет шырачынёю вокан.
Тушу ў сабе разгубленасць маю.
Тут не да казак, тут рэальны дзень,
Працоўны з заклапочанасцю новай.
Ды сэнс адвечны першапачатковы
Чытаецца на тварах у людзей.
Адвечны сэнс прыязнасці, любові,
Няўхільна праз усе вякі жыве.
І шчыра хочацца сказаць Літве
Прызнання і захопленасці словы.

## МОСТ

*Ніне Мацяш*

Таксі спяшылі пераскочыць мост
Устурбавана і амаль на крылах.
А ён маўчаў і, каб на поўны рост
Узняцца, гартаваў душу і сілы.

Як маці, хвалявалася рака,
Чаканнем спелі ўзрушаныя зоры,
І набярэжнай добрая рука
Была гатова падтрымаць апоры.

О, як мне зразумелы гэты час,
Калі ў штодзённым тлуме і турботах
Захоплівае непазбежна нас
Хвіліна найвышэйшага узлёту.

Мост велічна увышыню прарос
Над мітуснёй, і стомаю, і болем.
Вучуся й я ўставаць на поўны рост,
Для іншых узнімацца над сабою.

## НАБЛІЖЭННЕ СВЯТЛА

### I

Лясоў раскінь сівыя дываны,
Зямля,
              чакай, сумуй азёрным вокам.
Табе належам і ў нябёсах мы,
Зноў з вышыні глядзім, ды не звысоку.

### II

Унізе горад — як макет
Майго дыпломнага праекта.
Ў ім столькі рысак і прыкмет,
Знаёмых мне здаўна дарэшты —
Задумай, рытмам, шырынёй,
Імклівасцю дарог і вуліц...

Мой паўзабыты неспакой
Абрысы горада вярнулі.
Нібыта у студэнцкі год
Карпею над чарцёжнай дошкай.
I усяго ў мяне турбот,
Каб у кватэрах — сонца ўдосталь,
I зеляніны — у дварах,
I ўцехі markdown-free розная — для малечы.
Кніг уздымаецца гара,
I, як пясок, цячэ мой вечар.
I вось апошнія штрыхі.
(Сумненні заўтра мо адужаць...)
Як зорка, падае з рукі
Вятроў, пануючых тут, ружа.

## ПУСТЭЛЬНАЕ ВОБЛАКА

Яно абыходзіла іншыя хмары,
Цяжару баялася лішняга.
Цяжарнае смерцю прасіла кары
У людзей, як у найвышшага:
«Людзі, вы мяне нарадзілі
На вашы няшчасці,
Я не хачу іх,
Малю аб адзіным:
Дайце памерці дачасна.
Ваш і свой лёс прадбачу яскрава:
Дажджом упаду ўсёзгубным
На вашы мары,
На вашы справы,
На плён вашай працы рупнай,
На гульні дзяцей
У вясёлых дварах...

Дайце знясілець сілы!
Мне няма з чаго выбіраць —
Смерцю набраклі крылы...»

...Ляцела трывога краінамі,
Спакой звычайны абвергла:
«Радыяцыя! Будзьце пільнымі,
Насіце лічыльнікі Гейгера».

* * *

Са злом ваюю —
Станаўлюся злою.
Мае калючкі
Колюць перш мяне,
Але вісіць
Адказнасць нада мною
У гэтай
Неаб'яўленай вайне.

І як было б мне цяжка
Без сяброў,
Што дапамогуць,
Ў час бяду прадчуюць...
Адзінае,
Чаго заўжды хачу я,
Не забываць,
Што ў свеце ёсць дабро
І для яго
Зямля мая вяснуе.

## ВУЧНЁЎСТВА

Вучнёўства — няўмеласць, энтузіязм.
Падрамнік, эцюднік, трынога,
Надзеі і фарбаў каштоўны запас
І нешта яшчэ ад бога.

І гэта не ты, а ў цябе з палатна
Ўзіраюцца мудрыя вочы
І спапяляюць да дна і датла
Паглядам суровым прарочым.

Аднойчы адкрыецца вучню сакрэт,
Мудрасць якога такая:
Пакуль ты капіруеш толькі партрэт,
Цябе ён рупліва стварае.

## БЕЛАЯ ГЛІНА

15 гадоў не адыходзіў Бернар Палісі ад ганчарнага горна, намагаючыся раскрыць тайну фарфору.

Гадоў няспынны
Ганчарны круг.
За двух жыць нельга.
Працуй за двух.
А сэрца, нібы
У чым павінна,
Яно — аб гліне,
Аб белай гліне.

І вазу з печы —
У друз, у друз...

Узважыць розум
Няміласць муз,
Расчараванне
І боль абрыне...
...аб белай гліне.

Загадка, звада,
Жывы дакор —
Замежнай вазы
Нямы фарфор.
Сябе і волю
Распалавініў
У белай гліне.

Гадоў няспынны
Ганчарны круг.
За двух жыць нельга.
Працуй за двух.
І творца ў людзях
Павек не згіне.
Жыве легенда
У белай гліне.

### СЯБРЫНА

Чакала гэтае пары,
Як азарэння, як збавення,
За дзень высокі разумення
Удзячна шчыра вам, сябры.
За дзень, якому не аджыць,
Якому зводзіць нас шляхамі
І найдарожшымі радкамі
На новым дальнім рубяжы.

* * *

Ці лёсу нечым
Не дагадзіла —
Быў невыносны,
А стаў адзіны.

Сляпая радасць
Ліхой гадзіны —
Я абыходжу цябе,
Адзіны.

...Растала волі маёй
Ільдзіна —
Сябе губляю ў табе,
Адзіны.

Гады разводжу,
Нібыта вецце.
Каго шукаць мне
З нас двух на свеце?

## ІМЯ ТВАЁ

Зноў на зямлю
прыходзіць добры дзень.
Жыву яго звычайнаю турботай.
І над будзённасцю
глыбока ў сэрцы ўпотай
Заўсёды свеціць мне тваё імя.

Я аддаю да кроплі ўсю сябе,
Зацята уваходжу у работу.

І над усім высокай дзіўнай нотай
Гучыць узнёсла мне тваё імя.

Стамляюся і апускаю рукі.
І адступіла б, ды гарыць святло.
Мая надзея і мая зарука —
Імя тваё.

* * *

Люблю валошкі познея пагляд,
Задумлівы і недасяжна строгі,
І цьмянай пазалоты далягляд,
І стому цёплай і сухой дарогі.

Магчыма, заўтра наляцяць вятры,
Зямля дажджы панурыя прыручыць.
Мы лёгка йшлі да гэтае пары —
Цяпер амаль ляцім са сталай кручы.

Цяпер сваё «люблю» сказаць прасцей,
Але куды складаней закахацца.
А позняя валошка ўсё цвіце
Прыкметаю майго цяжкога шчасця.

## ХОЛАДНА

Звычайнасць.
Сустрэча добра знаёмых —
Праменьчык у тлуме горада.

Аб лепшым маўчым,
Пра глупства гаворым...
Холадна!

Словы,
Нібы вераб'і ў падстрэшку,
Ніякіх эмоцый — голадна.
Выціснеш ледзьве скупую ўсмешку...
Холадна.

Як мы
Інерцыяй думак хварэем,
Пачуцці стрымана глушым.
І не таму, што зіма на дварэ,
Холадна ў душах...

## ПРЫМУЛА ІМЕРЫАЛІС

### I

За дзень,
калі вулкан яшчэ маўчыць,
але у глыбіні яго, у сэрцы
клакочуць люта і агонь, і лава,
на схілах
расцвітае кветка смерці
прымула Імерыаліс;
і за гадзіну да таго,
калі
з магутным стогнам
здрыганецца глеба
і выбухне вулкан,
расколе неба,

гатовы ўсё жывое
знішчыць, сцерці,
цвіце упарта
кветка смерці.

Хвілінаю апошняю жыцця,
да кратэра бліжэй за ўсіх на свеце,
самаахвярным факелам яна
бяду вяшчае, кветка смерці.

II

Дзень пры дні
пунсавее, не вяне
у акне маім
прымула Імерыаліс.
І расце, прарастае
праз вочы, праз сэрца —
прадчуваць пачынаю
кветкаю смерці.
Дні гудуць,
дні жывыя, нібыта вулканы.
Узрываюцца беды
на Зямлі нечакана.
Горкі попел — у твар...
Боль душа не асіліць.
Нада мною плыве
чорны дым Хірасімы.
Узнімаю далоні —
дзве прымулы з сэрца,
кветкі смерці цвітуць,
толькі Свет не ўзарвецца.
Мы яго зберажом,
вечным мірам надзелім.
Нават зоркі на нас
пазіраюць з надзеяй.

## ПЕСНЯ БОРУ

Бор шуміць.
Яго магутны голас
з неба
і з высокай цішыні.
Я стаю
малой былінкай
кволай
у разгубленасці
перад ім.
Я баюся
гэты гул парушыць,
упускаю ў сэрца
і душу.
Як жывую песню Беларусі,
пошум бору
у сабе нашу.

## СМУТАК ВЫПАДКОВЫ

Узмахну рукою:
«Прыпыніся, Янка!
Правязі зімою
У летуценных санках!»

Конік-неўталоннік
Не ўстаіць на месцы.
Звабіць, запалоніць,
Каб удалеч звесці.

Позіркі праводзяць
Залатыя санкі.

Часам не зайздросцяць
Нам з табою, Янка?

Хмель тваёй усмешкі
І майго пагляду...
Безагляднай снежкай —
Маладосць і радасць...

Ля чужога ганка
Смутак мой пасею:
«Паспяшайся, Янка,
На сваё вяселле!»

Не здаюся злою.
Дай каню бог крылы.
Будзеш з маладою
Праз мяне шчаслівы.

Прапяюць падковы
Заінелым ранкам.
Смутак выпадковы
Недзе згубяць санкі...

* * *

Зноў абставіны так паставілі,
Што не вырвацца з іх абдымкаў.
Думы — думамі, справы — справамі.
Ні адхлання, ні адпачынку.

Гэта ж трэба так закапаць сябе,
Што і мара — грэх, і надзея — боль.

Што гады мае назапасілі,
Як мірыць мне вас у сабе з сабой?

З абавязкаў радасць не вызнала,
А правы нібы беспадстаўныя.
Адкрываю за ўсімі бедамі,
Вінавата я — не абставіны.

* * *

Памяркоўных купін удосталь,
Каб да берага дайсці
Пад скупы нагляд самоты.
Я паспею гэта потым,
А пакуль мне нават ростань
Свеціць шчасцем у жыцці...

## СОНЦА Ў АКНЕ

Расплаўлена ў промнях бясконцасць
За шчодра адкрытым акном.
І свеціць адзінае сонца,—
Нічога за ім не відно.



Елкі, як чорныя пагады.
Жыць бы мне ў лесе замкнёна.
«Ты іншага поля ягада»,—
Адказвае лес зялёны.
Знайду сваё поле загадзя,
Расою ўпаду самазгубна.
Я гэтага поля ягада,
Кароткі мой дзень да палудня.
Хмурынкай мне лёгка узняцца,
Спасцігнуць нябёсаў бязмежжа,
І зведаць няўдачы і працу,
І гэтаму полю належаць.

## У КАСМЕТЫЧНЫМ КАБІНЕЦЕ

У масках жанчыны.
Ні рыс, ні маршчынак,
Нібы акцёры пасля пантамімы
Пустой, што нічога не выяўляла.

Якога святла вам
Ў жыцці бракавала?
Вы болей ахвяры,
А не пераможцы,
Няма вашых твараў,
Затое ёсць вочы.
З глыбінь іх цячэ
Непазбыўна туга,
Якая гадамі госціць,
Дыктуе жаданне:

Сябе захаваць
Не для сябе —
Для кагосьці.

* * *

Я ведала, што гордай трэба быць,
Не поўзаць прад табою на каленях.
А вецер голле так абцерабіў —
Здзіўляюся раптоўным пераменам,
Здзіўляюся: не пазнаю свой сад,
Асенні і суровы не па ўзросту.
І зараз азіраюся назад:
Ці не была у гордасці я жорсткай?

## МАНАЛОГ

Вы раіце
зрабіць кардыяграму,
каб выявіць
хваробу майго сэрца?
Не варта, доктар,
ведаеце й самі,
што кожны боль наш,
нібыта зарубка
на сэрцы,
а калі зарубак многа,
яны ператвараюцца

у раны,
якія не загойваюцца
з часам.
Хаця існуе
шчасце на зямлі,
ды і яно
не самы лепшы лекар.
Вы кажаце,
што трэба мне спакой.
А дзе ён ёсць?
Калі і з дна марскога
нудзіцца буду
па свайму дзіцяці,
душою
да каханага імкнуцца
і сумаваць
па роднаму Палессю.
Прабачце, доктар,
гэта не хвароба.
Лячыць найперш
патрэбна тыя сэрцы,
якія не баляць ніколі.

* * *

Мае ціхія дрэвы —
Апусцелыя гнёзды.
Лес ад болю не плача.
Ім валодае роздум.

Разлагодзіцца сонца
На пагорках стракатых

І асвеціць гаёў
Дарагія палаты.

Залатая святліца —
Птушак даўнія спевы.
Апусцелыя гнёзды —
Мае добрыя дрэвы.

Развітальная песня
Бліжай, бліжай... і міма.
Завалодае роздум —
Набягуць успаміны.

## КАЗКА СЫНУ

*З. Кісялёвай*

Мой маленькі цікаўны шпачок,
Ты штодня патрабуеш казку.
Для цябе усе казкі свету —
Найсапраўднейшае жыццё.
Ці ты можаш хоць што зразумець
У гэтых простых складаных казках,
Калі я ледзь яшчэ пачынаю
Да іх мудрага сэнсу даходзіць...

Вось паслухай: жыў-быў чарадзей,
Напаткаў недзе ў свеце дзяўчыну,
Палюбіў не як чалавека —
Як прыгожую цацку, як рэч.
Многа ўмеў стары чарадзей,
Усё яго паддавалася сіле.
Толькі сэрца кволай дзяўчыны

Заставалася недасягальным
Для бязлітасных хітрых чар.
Гэта казка канчаецца добра...

Спі, маленькі, а я пасяджу.
Я успомню яшчэ раз казку
І, магчыма, вырашу нешта
Вельмі важнае для сябе.

* * *

Бездапаможныя словы,
Як безнадзейна хворыя.
Хілім галовы —
Гора агорала.
«Дастаньце галінку зялёную,
Каб не гніла ў труне,
Ёй на вянках папяровых
Можна яшчэ зелянець».
Мы сёння адзіныя болем,
Вусны знявечаны крыкам:
«Толічак!.. Толя!..»
Не прыклікаць.
Не была я чужой,
Блізкай стаць не паспела,
Застаёмся з душой,
Развітаемся з целам.
Я не веру ў рэальнасць,
Слёзы вытрыце, людзі,
Заўтра ранencька-рана
Ён усіх нас пабудзіць...

## ПЕРАСТАЯЛАЯ ТРАВА

Нешта зарана
Трава заняпала.
Сена на корані,
Нібы быльнёг.
Хто вінаваты?
Перастаяла.
І прыпадае спрагнела
Да ног.
Што ў нас
Адзіна нам толькі належыць?
Дзіўна залежам
Ад стрэч і разлук.
Туляцца сэрцы,
Як горкія межы,
Калі не да сэрцаў,
Дык хоць бы да рук.

Рук надта многа,
І розныя рукі...
Горыч мінулую
Час прыглушыў.
Рукі давалі
Палёгку у муках,
Затое бязладна
Таўкліся ў душы.

Я скарыстаю
Спрадвечнае права:
Усё ім дарую,
Сабе — немагчыма.
Гэтак пачуцці
Перастаялі,
Нібы трава
У асенняй лагчыне.

І не падняцца
Зялёнай атаве.
Як яшчэ зіму пераўжыву?
Што перадумаю,
Што перапраўлю,
Каб прычакаць
Маладую траву.

* * *

Махні рукой на каляндар,
Яму пара з падліку збіцца.
Услаўім новы дзень, як дар.
У ім камусьці нарадзіцца,
У ім штодзённай працай жыць,
Сталець і старасці не ведаць.
Гадам на смелым віражы
Ледзь паспяваць за намі следам.
Хапае спраў, хапае мар —
Ім немагчыма не адбыцца.
Махні рукой на каляндар,
Пара яму з падліку збіцца...

## МАРФА

Як ты жыццё мне перавярнула,
Прайшла — праспявала арфай,
Нібы галінку, душу кранула,
        Марфа.

Мне, мастаку, яшчэ нараджацца,
Спеліць уласныя фарбы.
Надзеі мае асвяціла і працу,
Марфа.

Замуж цябе аддавалі сілай
За нікчэмныя грошы.
Ты не плакала. Папрасіла:
«Не забывай, колькі зможаш».

Чым ты жыла,
Ці хоць блізкія знаді?
Гінула зморанным птахам.
Гэта не сёння цябе пахавалі,
Марфа.

Людзі ўзносяць вочы і пацеры,
Жаданні свае і скаргі
Да фрэскі боскае мацеры —
Маёй Марфы.

Ззяе пагардай неба саборнае
І над маім прахам,
Вам пікадаю адзіную, родную
Маю Марфу.

* * *

Не страляй маіх птушак
Чакання і веры,
Каб адхланнем яны
Залятаді ў дзверы,

У адкрытую фортку,
У стамлёныя вочы...

Як бяздумна
Ты з хіжаю стрэльбаю крочыш.
Вось наведзена руля —
І неба аглушана.
Ты забіў маіх птушак!..

Адыходжу, прабач,
Пухам дол зацярушаны,
Праз цябе і сябе.
Ты забіў маіх птушак.

Мне трывожна і золка.
Неба — вокам вільготным.
Пакідаю, прабач,
Ужо беззваротна.
Непрыручана гляну:
Нешта ў свеце парушана
Ад свабоды маёй.

Ты забіў маіх птушак...

* * *

Напаткала лясное возера,
Патаемнае, як жаданне.
Не спасцігнуць прадоння позіркам,
Не спазнаць цярплівым чаканнем.
Толькі ўзрушанасцю прыпасці
Да яго чысціні і блакіту.

Адзінота. Але як шчасце —
Быць прыродай ад бед закрытай.
Найвышэйшы прасветлы спакой.
Азірнуся: ялін аблога,
Адвяду галіну рукой.
Не згубіць бы сюды дарогу.

### ЗЯМНЫЯ ЗОРКІ

#### І. ЦІШЫНЯ

Апошні выбух
Апошняга бою.
За ім,
Як за гулкай сцяною,—
Цішыня.
Абтрэсла галінка
Зямлі камяк,
Панікла краска
Каронкай,
Зайшлася болем:
Свежай варонкай
Дыміцца поле.
«Я чырвоныя кветкі прымяў.
Вось яны пад рукою палаюць,
Я не рву іх,
Яны да рукі прыліпаюць...
Я ўзняцца хачу.
І адкуль гэта стома?
Кветкі з пахам крыві
І вясноўвага поля».

### II. ГОЛАС ЗЯМЛІ

Я чакала цябе.
Я заўсёды чакала цябе,
Праводзячы ў светлае неба.
І ў небе
За табою сачыла —
За белаю дзённаю зоркай,
Не аднымі вачыма —
Кожным узгоркам
Да цябе ўзнімалася,
Сын мой крылаты.
Ад выбухаў уздрыгвала:
«Дзе ты? Як ты?»
Я заўжды сустракала цябе,
Ці ты заўважаў, мой сыне,
Як я адтавала
Пад нагамі тваімі...
Цяпер
Суцяшэнне шукаць мне дзе?
Сама не ўберагла цябе...

### III. ПАМЯЦЬ

Чырвоныя зоркі зямныя
З бетонных пліт вырастаюць.
Над кожнаю брацкай магілай,
Над кожным курганам ззяюць.
У здзіўленні неба:
«У Зямлі такія сузор'і!»
То наша памяць.
То наша гордасць.
То наша гора.
Бярозка шчакой
Прыпала да помніка,
Што ў акоп пасадзілі яе,
І сёння ёй помніцца...

## ЗМЕСТ

Дудзюк З.
Д 81 Праводзіны птушак: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 39 с., іл.— (Першая кніга паэта).
15 к.

«Праводзіны птушак» — гэта лірычны роздум пра Радзіму, узвышаную гераічным подзвігам і натхнёнай працай савецкіх людзей, гэта спроба ўласнага асэнсавання лірычнай гераіняй такіх паняццяў, як дабро і зло, любоў і нянавісць.

Д $\frac{4702120200-060}{М302(05)-83}$ 75—83 ББК 84Бел7
Бел2

*Первая книга поэта*
Зинаида Иосифовна Дудюк
ПРОВОДЫ ПТИЦ
Стихи
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак А. В. Ліхачоў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 1795

Здадзена ў набор 02.12.82. Падп. да друку 22.03.83. АТ 08563. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,46. Ум. фарб.-адб. 2,92. Ул.-выд. арк. 1,48. Тыраж 3000 экз. Зак. 3189. Цана 15 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.